Супольнасьць

БЮЛЕТЭНЬ КААРДЫНАЦЫЙНАЕ РАДЫ КАНФЭДЭРАЦЫІ БЕЛАРУСКІХ СУПОЛАК • КРАСАВІК-ТРАВЕНЬ 1989 №3

# БІБЛІЯ ПА-БЕЛАРУСКУ

Нам стала вядома, што на беларускую мову перакладаецца Біблія. Мы сустрэліся зь перакладчыкам Васілём Сёмухам і папрасілі яго адказаць на некаторыя нашыя пытаньні.

Рэдакцыя: Скажыце, калі ласка, ад каго ішла ініцыятыва перакладу?

В.Сёмуха: Ініцыятыва перакладу Бібліі на беларускую мову належыць Рускай праваслаўнай царкве: Прэасьвяшчэннаму мітрапаліту Мінскаму і Беларускаму Філарэту і, я ў гэтым упэўнены, адпавядае жаданьню беларускіх хрысьціян мець Сьвяшчэннае Пісаньне на роднай мове і гутарыць з Богам на роднай мове. Гэтая ідэя вельмі прыхільна сустрэта таксама цэрквамі евангельскіх хрысьціян /баптыстаў/ і хрысьціян веры евангельскай / пяцідзесятнікаў/, ад якіх таксама атрымліваю каштоўную дапамогу ў працы.

Р.: Ці знаёмыя Вы зь іншымі перакладамі Бібліі на беларускую мову?

В.С.: Такіх перакладаў некалькі. Але я ўважліва прачытаў толькі адзін — пераклад Луцкевіча. Добра, што яны ёсьць. Гэта сьведчыць, што пераклад Сьвяшчэннага Пісаньня — працэс гістарычна доўгі і ён будзе працягвацца.

Р.: Дзядзька Васіль, ці ведаеце Вы пра пераклад Бібліі на беларускую мову, які робіць ксёндз Чарняўскі, ці знаёмыя Вы зь ягонай працай?

В.С.: Не, не знаёмы, але ад усяго сэрца вітаю высакародную працу Айца Уладыслава і зычу яму посьпехаў як і сабе,бо гэта справа наша агульная.

Р.: Калі дазволіце далікатнае пытаньне, ці веруючы Вы?

В.С.: Я не зусім добра ведаю, што такое "веруючы" і "няверуючы". Калі ў прымітыўным разуменьні, дык "няверуючы". А калі глыбей крыху, дык толькі той, хто ня мае цара ў галаве, ня мае і Бога ў сэрцы,— да такіх я сябе не адношу.

Р.: А ці можа "няверуючы" перакласьці Сьвятое Пісаньне?

В.С.: Можа, калі будзе працаваць сумленна, разумеючы, што яго праца патрэбная людзям: і "веруючым", і "няверуючым", якія і складаюць яго народ. Сумленнасьць, сур"ёзнасьць, адказнасьць — гэта таксама Бог у сэрцы, калі зьнікае штучная перагародка, якая разьдзяляе людзей на "веруючых" і "няверуючых". Усе мае продкі — веруючыя; лічыце, што я раблю пераклад для іх, зь любоўю, з павагай, шчырасьцю і з духоўнай і цялеснай неразьдзяднанасьцю. Што да магчымых памылак ад маёй багаслоўскай неабазнанасьці, дык ад памылак ніхто не застрахаваны,памылка — памылка,калі яна не ад злога намеру, яе выправіць можна. Біблію перакладае Царква, толькі што праз мяне, і Царква зробіць усё магчымае, каб ухіліць прыкрасьці, якія паўстануць ад перакладчыцкай недасьведчанасьці.

Р.: Дзядзька Васіль, мы Вас ведаем як перакладчыка "ерэтычных кніг": "Фаўста" Гётэ, Рыльке, "Доктара Фаўстуса" Томаса Мана. Нават лірыку маладога Карла Маркса Вы перакладалі. Як растлумачыць такі раптоўны паварот да Бібліі?

В.С.: Гэта ня "раптам" і не "паварот". У пэўным сэнсе усе названыя творы складаюць адзінства. Ва ўсіх творах аналізуецца праблема Дабра і Зла, толькі ў розных аспэктах. Скажам, чалавечы геній на службе у зла /"Фаўстус"/, чалавек паміж Дабром і Злом /часовы саюз са Злом у пошуках Ісьціны — "Фауст"/, жыцьцё і сьмерць,як формы непадзельнага існаваньня /"Санеты Арфею"/, і, нарэшце,— Дабро і выратаваньне праз яго чалавека /"Новы Запавет"/. Гэта магчымы аб"ект перакладчыцкай творчай цікавасьці. Так сказаць, ідэя, кожны аспэкт якой разглядаецца перакладчыкам сур"ёзна і сумленна, без падкрэсьліваньня сваіх упадабаньняў, але з поўнай аддачай сілы на перауэнаўленьне чужых твораў. "Новы Запавет" у гэтым шэрагу і ў гэтым плане — самае лягічнае і самае грунтоўнае завяршэньне, найлепшае,пра што можа марыць перакладчык.

Што ж тычыцца лірыкі маладога Карла Маркса,— а каму яна ў наш час патрэбная? І куды зь ёю сьпяшацца?Кніжка-мініяцюра лірычных вершаў маладога Маркса,падрыхтаваная выдавецтвам "Мастацкая літаратура", ляжыць у друкарні падпісаная ў друк /!!!/ 6 жніўня 1986 году — і нікога гэта не цікавіць. З поўным правам расцэньваю такую ўвагу нашага галоўнага ідэёляга — апостала Паўлава і ягонай чэлядзі да гэтай кніжкі, як намёк на тое, што Марксава лірычная экзальтацыя нашаму народу — да лямпачкі! Вершы публікаваліся да Марксавага юбілею; цяпер яны могуць пачакаць да наступнага, балазе, нашым "марксістам" галава не баліць.

А Сьвятое Пісаньне далейшага адкладу ня церпіць. З усьведамленьнем гэтых банальных ісьцінаў я і прыступіў да працы над тым, што людзям патрэбна.

Р.: Што ж, пажадаем Марксу пераскочыць ідэялягічныя бар"еры, а Вам посьпехаў і новых перакладаў! Бывайце!

Ад сябе можам дадаць, што дзядзька Васіль растлумачыў нам значэньне бел-чырвона-белых нашывак на мантыях іерархаў праваслаўнай царквы ад старажытнасьці да сёньняшніх дзён.Гэта сымболь настаўніцкай місіі Ісуса Хрыста на зямлі, перададзены яго вучням,— пасеў праўды крывёю Ісуса Хрыста на чыстым полі чалавечай душы. З гэтым сымболем-сьцягам беларускія валяры змагаліся за праваслаўную веру і родную зямлю з захопнікамі-крыжакамі.

# ГАДЗІНА МАЎЧАНЬНЯ

26 красавіка ў Менску прайшлі два мітынгі памяці ахвяраў Чарнобылю. Адзін — у лесапарку імя 50-годзьдзя Кастрычніка, які шырака рэклямавалі рэспубліканскія сродкі масавай інфармацыі, другі, недазволены ўладамі, перад Домам Ураду, перад урачыстымі трыбунамі, зоркамі, сьцягамі, партрэтамі, і зацемненымі вокнамі... Тысячы людзей гадзінай маўчаньня з запаленымі сьвечкамі ўшанавалі памяць суайчыньнікаў, усіх ахвяраў Чарнобылю. Міліцыя і войскі не разганялі жалобны мітынг,можа,"дзякуючы" урокам крывавай нядзелі ў Тбілісі...

Праўда па заканчэньні, калі людзі ўжо разыходзіліся, па плошчы праехалі некалькі палівальных машынаў і "прадэзынфікавалі" месца.
А на наступны дзень арганізатары несанкцыянаванага маўчаньня былі выкліканы ў раённы аддзел унутраных спраў Маскоўскага р-ну, дзе на іх былі складзены пратаколы,

ГОМЛЯ. 26 красавіка.

Чорны сьнег пасыпаўся. Чорная зіма.
Быў хоць ствол, а зараз і яго няма.
/А.Наўроцкі. "Яблыня каханьня", 1961 /.




ЯН РАЙНІС

# СЬМЕРЦЬ НАРОДУ

Так, наш народ памрэ, — такое знаць
нам дадзена і жыцца з горкай тайнай,
Нам словы гэтыя ў душы гучаць
З даўных давён і будна, і звычайна.

Пазначыла нязбытная пячаць,
Малыя і вялікія народы, —
Па ўсіх магільны звон праб"е ў свой час,

Памруць вялікія, каб назаўсёды
Уваскрэснуць у абдымках брацкай згоды.

x

"Яшчэ пабачым, — чуецца адказ, —
Але малых сьпярша сажром дазваньня,
Пакуль там тое брацтва прыме нас!
Нам прадстаіць вялікае змаганьне!"

Вам — дужацца, нам мірны пласт зямлі,
Бо мы насеньне, з нас вам адраджацца,
Мы дрожджы, каб ад нас і вы ўваскрэсьлі.

Усім, каму назначана канчацца,
Наканавана ўстаць ў абдымках брацтва.

/з латыскай мовы пераклаў Базыль Парасьліна/

# ЗАБАСТОЎКА

Другі месяц бастуюць студэнты філалагічнага факультэта БДУ ім.Леніна. Галоўнае патрабаваньне — адмена вайсковага навучаньня для дзяўчат. Студэнты 3-га курса беларускага аддзяленьня адмовіліся наведваць заняткі і здаваць дзяржаўны экзамен па медыцынскай падрыхтоўцы. Такі крок — вынік нежаданьня Міністэрства адукацыі СССР і Міністэрства абароны прыслухацца да голасу розуму.

# ПЕРШАМАЙ У КУРАПАТАХ

1-га траўня а 8-й гадзіне некалькі тысяч чалавек сабраліся каля Акадэміі навук. Відовішча было сапраўды сьвяточнае: бел-чырвона-белыя сьцягі над галовамі, выявы Пагоні,гербы беларускіх гарадоў, транспаранты са словамі "Салідарнасьць за волю", "Жыве Беларускі Народны Фронт" ды інш. Акрамя менчукоў былі тут пасланцы групаў падтрымкі БНФ і Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак з Маладэчні, Гародні, Воршы, Гомлі, іншых гарадоў. Прыехаў Алесь Адамовіч, сябра Сойма "Саюдзіса" Г.Сангайла,прадстаўнік Народнага фронту Грузіі, іншыя госьці. Не пакінулі нас у адзіноце і айцы горада:сябра гаркама партыі Іванова ў міліцэйскі мэгафон папхнула прамову:"Разыходзьцеся па калякцівах!".

Тут жа, ля Акадэміі навук, адбыўся мітынг, пасьля якога калона мелася прайсьці па праспекце /недаходзячы да сьвяточных урадавых трыбунаў / ды ўскласьці кветкі да помнікаў Я.Коласу, Перамогі, Я.Купалу, М.Багдановічу. Гэты крамольны акт запабегла "айцечаская забота": праспект быў перакрыты міліцыяй.Вольным застаўся толькі шлях у Курапаты...
Там, ў гэты Вялікодны дзень, сьвята уваскрэсеньня Хрыста, у словах людзей гучала вера ў адраджэньне і разважлівасьць. Гучала яна і ў словах пасланца грузінскага народу, нягледзячы на крывавыя падзеі ў Тбілісі, якія паказалі, што ямаў яшчэ хапае.

Тое сумнае Першамайскае шэсьце завяршылася ля помніка М.Багдановічу. Людзі сьпявалі ягоную несьмяротную "Пагоню".

Адразу пасьля сьвятаў, за ўдзел у Першамайскай дэманстрацыі многіх выклікалі ў міліцэйскія пастарункі, складалі пратаколы. Дасье чакаюць свайго часу...

# ЭМІГРАЦЫЯ ІНФАРМУЕ

Як падаюць беларускія эміграцыйныя газеты, "у сувязі з падпісаньнем амэрыкана-савецкай умовы аб скарачэньні атамна-ракетнай зброі і абавязку выяўленьня гнёздаў гэтае зброі абодвума бакамі, у ЗША стала даступнай савецкая справаздача аб іхных мейсцах — гнёздах гэтае зброі, між іншым і ў БССР. Сотні ракетаў усеялі ўсю БССР, а перадусім Берасьцейшчыну і Гарадзеншчыну, а ў другой лініі: Гомельшчыну, Магілёўшчыну, Меншчыну і Віцебшчыну. Першая паласа ідзе ад Маларыты, Слабодкі, Засімавічаў, Броннай Гары, Пінску, Ружанаў, Слоніма, Ліды, Гецгалаў да Смаргоні і Паставаў. У другой паласе: Жыткавічы, Мазыр, Петрыкаў, Рэчыца, Гомель, Жлобін, Слуцак, Бабруйск, Лапічы, Станькова, Менск і Ветрына. Аграмадны склад ракетаў бо аж 170, знаходзіцца ля Броннае Гары на Берасьцейшчыне. На выпадак вайны, такім чынам, уся Беларусь была бы сьцерта зь зямлі, бо зразумела, што Амэрыка прабавала б у першую чаргу зьнішчыць савецкія ракетныя базы".

/працяг з ст.3/

## ПАСТАНОВА ПЕРШАГА УСЕБЕЛАРУСКАГА КАНГРЭСУ АБ САМАВЫЗНАЧЭНЬНІ БЕЛАРУСІ І АБ ЧАСОВАЙ КРАЁВАЙ УЛАДЗЕ

Усебеларускі Зьезд, у колькасьці звыш тысячы чалавекаў, прадстаўленых сялянствам, жаўнерамі, работнікамі й усімі дэмакратычнымі арганізацыямі цэлага краю, абмеркаваўшы цяжкі стан усяе Расейскае Дэмакратычнае Фэдэрацыйнае Рэспублікі й асабліва крытычны мамэнт для Беларусі, прызнаў за канечнае:

І. Замацоўваючы сваё права на самавызначэньне, абвешчанае расейскай рэвалюцыяй, і зацьвярджаючы рэспубліканскі дэмакратычны лад у межах Беларускай Зямлі, для ўратаваньня роднага краю й захаваньня яго ад падзелу, І-шы Усебеларускі Кангрэс пастанаўляе безадкладна ўтварыць із свайго складу орган краёвае ўлады, які часова становіцца на чале кіраўніцтва краем, уваходзячы ў зносіны з цэнтральнай уладай.

# ХРОНІКА

Аргкамітэт БНФ "Адраджэньне" падаў заяву у Мінскі гарсавет на правядзеньне зьезда Народнага Фронту 24-25 чэрвеня.

* * *

Па выніках галасаваньня, у Савет Саюза і Савет Нацыянальнасьцяў Вярхоўнага Савета СССР былі абраныя далегаты ад БССР у тым складзе, што бнў сфармаваны пад непасрэдным кіраўніцтвам вандэйскага партыйнага апарату, які, натуральна, праігнараваў думку дэмакратычнай меншасьці.

Але цікава тут тое, што нават пры такім, у большасьці кансэрватыўным складзе зьезда, першы сакратар ЦК КПБ Я.Сакалоў і Старшыня прэзыдыума Вярхоўнага Савета БССР Г.Таразевіч набралі найменш галасоў!

Ці прайшлі б яны ў склад Вярхоўнага Савета СССР, калі б у іх быў хоць адзін альтэрнатыўны кандыдат?..

* * *

З Тбілісі па тэлефоне паведамілі, што у Грузіі распусьцілі Камсамол, і 27-28 траўня зьбіраецца зьезд маладзёжных асацыяцый, на якім, магчыма, аформяцца новыя структуры. На гэтым тэлефонная сувязь перапынілася...

Мяркуем, што Камсамол усё ж яшчэ застаўся. Але канчаткова высьвятліць гэтае пытаньне зможам толькі пры ўмове ўдасканаленьня сродкаў тэлефоннай ды іншай сувязі...

* * *

30 красавіка, І-2 траўня ў Тарту прайшла ІІІ-я нарада прадстаўнікоў нацыянальна- вызваленчых рухаў краіны. Былі дэлегаты ад Літвы, Латвіі, Эстоніі, Беларусі, Украіны, Арменіі, Грузіі, Азербайджана, крымскіх татараў.

10-хвілінное выступленьне прадстаўніка Беларусі было прысьвечана цяперашняму стану нацыянальнага руху, была прызнаная юрысдыкцыя БНР і факт акупацыі Беларусі ў 1921г. згодна Рыжскай дамове. На нарадзе прайшла дыскусія паміж літоўскай ды беларускай дэлегацыямі адносна праваў Літвы на Віленскі край, маючы на ўвазе той факт, што перадача Літве Вільні ды Віленскага краю адбылася згодна з тым жа славутым пактам Рыбентропа-Молатава, супраць якога паўстае зараз літоўскі народ.

Нарада асобнай рэзалюцыяй прыняла рашэньне правесьці ў рэспубліках 7-9 траўня мітынгі ды галадоўкі пратэсту супраць антыдэмакратычнага Указу Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР ад 30 сакавіка пра сымболіку і незалежны друк.

•

Шаноўныя чытачы! Дзякуем усім, хто дасылае ахвяраваньні на адрэсу "Супольнасьці". Прымаем іх і надалей. Сабекошт кожнага нумару 40 кап.

# ДЫСНЭЙ-ЛЭНД У РАКАВЕ

Нядаўна люд паспалітны выпадкова даведаўся, што невычэрпная крыніца валюты б"е...пад Ракавым. Нявінная забаўка за два з паловай мільярды — Дыснэй-лэнд. І калі раней беларусы проста хадзілі ў лапцях, дык цяпер яны ў тых лапцях ужо будуць езьдзіць з амэрыканскіх горак.



"...Гавораць факты, што мы дагонім..." /А.Наўроцкі "Элегіі", 1958-1961/

Таму мы /канфэдэраты/ і вырашылі, улічваючы штогадовую традыцыю экалягічных вандровак, апярэдзіць турыстычныя хвалі, ды прайсьціся па тым маршруце.

Наш пратэст быў далёка ня першы, і, паколькі справа нарабіла гвалту, аўтары скандальнага праекту вымушаны былі палічыцца з грамадзкай думкай і часова адмовіцца ад сваіх планаў /ЛіМ, 5.05.89/.

Але вандроўка адбылася. 7,8 траўня сябры суполак "Талака"/Менск/, "Талака"/Гомля/, "Рунь" /Ліда/, "Сваякі" /Наваградак/, "Кроплі" /Менск/ "Сябрына"/Вілейка/, "Сябрына"/Вільня/, "Край" /Берасьце/, "Сутнасьць"/Баранавічы/, краязнаўчы клуб зь Менску, а таксама Беларускага Аб"яднаньня Студэнтаў з Польшчы прайшліся па мясьцінах: Вязынка, Дзявочая гара ў Дубровах, Ракаў. Не абышлося і безь непрыемных момантаў: каб прадухіліць захоп Ракава ды яго ваколіцаў, на працягу ўсяе вандроўкі нас самаахвярна суправаджала, спадзяемся, вышэйшае міліцэйскае начальства раёна. Гутаркі былі цікавыя абодвум бакам.

Але крыўдна тое, што і мы былі не заўсёды на вышыні: дазвалялі сабе недалікатнасьць і нецярпімасьць да чужое думкі.



Вядома, цешылі сустрэчы зь сябрамі, іхныя росповеды пра свае суполкі, песьні ля вогнішча ды абмен нефармальнымі думкамі. Ганаровы тытул "Валацуга-89" атрымалі гераічныя "Кроплі", што бадзяліся па шляхох за Канфэдэрацыяй і дагналі яе толькі у апошні вечар. Прыемнай нечаканасьцю былі песьні новага барда Андрэя Мельнікава з Воршы, а ягоная "Песьня зь мінуўшчыны" аднадушна прызнаная лепшай песьняй вандроўкі.

Добра ці блага ўдалася вандроўка — меркаваць яе ўдзельнікам, але на будучыню хацелася б мець большую супольнасьць думак, песьняў ды ведаў.

"Супольнасьць". На белорусском языке.
Орган Канфэдэрацыі Беларускіх Суполак.
Друкарня пана Марціна Кухты. Друк — афсэтны. Перададзена ў Менск па фотатэлеграфе. АТ 28-31-КДВ-561. Заказ №9.
Падпісана ў друк 30.05.89. Тыраж 3000.